Докшыцкі раён

# Калодзеж, калодзеж, дай вады напіцца!

■ Чэслаў Якубовіч

**Са спрадвечных часоў у глыбінцы сімвалам жыцця, адным з месцаў спаткання і размоў сялян быў калодзеж з гаючай вадой.**

Гэту традыцыю пасвойму вырашылі адрадзіць у Круляўшчызненскім сельсавеце, што ў Докшыцкім раёне. Для правядзення незвычайнага свята калодзежа тут выбралі вёску Слабада, дзе такіх збудаванняў калаваротнага тыпу захавалася роўна 20. Іх гаспадары пастараліся да пачатку гэтага мерапрыемства навесці парадак і прыгажосць, бо пераможцаў конкурсу вызначала спецыяльнае журы на чале з дырэктарам сельгаспрадпрыемства "Докшыцкі" Сяргеем Хілько. Пачалася ўрачыстасць з прыгожых народных песень. Не былі забыты мясцовыя імяніннікі, у якіх дзень нараджэння супаў з калодзежным святам вёскі. А вось лепшыя калодзежы і найсмачнейшую ваду вызначалі адразу ў некалькіх намінацыях сярод 20 удзельніц, кожная з якіх паказалася сябе сапраўднай гаспадыняй. Быў адзначаны і самы "стары" калодзеж Соф'і Жызнеўскай, які спраўна працуе і служыць людзям ужо больш за 100 гадоў, паколькі быў пабудаваны яшчэ ў 1910 годзе. Арганізатары свята вызначылі таксама самую смачную і самую халодную, гаючую ў спёку ваду. Асобна прыйшлося адзначаць адразу некалькі жанчын, калодзежы якіх патанаюць у кветках, вызначаюца чысцінёй і прыгажосцю. Такое свята зблізае людзей і робіць жыццё яшчэ больш непаўторным і цікавым.

Пастаўскі раён

# Прыярытэт – найноўшым тэхналогіям

■ Кастусь Александровіч

**Ва ўсе сферы жыцця ў глыбінцы апошнім часам пачалі актыўна ўкараняцца сучасныя электронныя тэхналогіі.**

Далей за іншых у гэтым накірунку пайшоў калектыў Пастаўскай цэнтральнай раённай бальніцы, які адным з першых у краіне пачаў развіваць тэлемедыцыну яшчэ напачатку новага стагоддзя. Днямі поўнасцю завяршыўся працэс камп'ютарызацыі, і да мясцовай лакальнай сеткі падключылі 128 камп'ютараў медработнікаў. З 3 дня на дзень запрацуе і праграма апрацоўкі ўсіх амбулаторных электронных картак і картак хворых стацыянару. Яшчэ раней пастаўскія медыкі з дапамогай Інтэрнэту пачалі звязвацца са сваімі калегамі з буйных медцэнтраў краіны, а таксама праводзіць відэаканферэнцыі з медработнікамі з бальніц раёна ў сельскай мясцовасці. На прыём да ўрачоў можна запісацца і праз Інтэрнэт.Ужо некалькі гадоў у рэжыме "анлайн" аператыўна ў складаных выпадках ставяцца дыягназы хвароб сэрца і скуры, пацыентам не прыходзіцца ездзіць у дыягнастычныя цэнтры. Летам у бальніцы адкрылі пасля рамонту і мадэрнізацыі хірургічнае аддзяленне, якое таксама забяспечана тэлемедыцынай. У аперацыйным блоку стане працаваць электронны тэлекомплекс з сувяззю з вядучымі хірургамі абласнога цэнтра, якія па неабходнасці падчас праводзімых складаных аперацый стануць кансультаваць сваіх пастаўскіх калег. Дарэчы, у райцэнтры ўжо асвоілі лапараскапічныя аперацыі, а зараз зоймуцца і эндапратэзаваннем тазасцегнавых суставаў.

Полацкі раён

# Першая "ластаўка" ў нафтаградзе

■ Станіслаў Раманчук

**У нядаўнім мінулым былы ваенны гарадок Баравуха-1 быў закрытай зонай для пабочных асоб.**

Аднак потым яго ўключылі ў Наваполацк, дзе ён стаў аддаленым мікрараёнам горада нафтаперапрацоўшчыкаў. Нядаўна тут адбылася ўвогуле незвычайная падзея: была ўрачыста адкрыта першая аграturystычная гаспадарка "Славяначка". Яе ўладальніцай стала дэпутат гарсавета Галіна Саковіч, якая прыняла на адпачынак першых сваіх гасцей, сям'ю рэдактара адной з рэгіянальных расійскіх газет. Для аграсядзібы яе ўладальнікі рашылі выкарыстаць свой утульны двухпавярховы катэдж. Да таго ж, памяшканне стаіць побач з мясцовым прыгожым возерам. На гэту нерухомасць палажылі вока шэраг заможных суайчыннікаў і багатых расіян, але ўсе прапановы аб продажы былі адхілены. Падтрымаў жанчыну ў новым для яе занятку і гарсавет дэпутатаў, які вырашыў пытанні добраўпарадкавання прыбярэжнай зоны вадаёма, набыў для адпачынку людзей катамараны. Гаспадыня сядзібы паклапацілася аб драўляных скульптурах на сядзібе, кветках навокал, зрабіла альтанку для адпачынку і нават сажалку пасярод маладога саду. Для гасцей прапануюцца стравы славянскай кухні, шэраг прысмакаў і хлеб выпякаюцца адмыслова ў печы. Паколькі чакаецца, што турыстаў у гэтых прыгожых мясцінах пабач з ракой Заходняя Дзвіна будзе шмат, аб перспектыве заняцца агратурызмам думаюць яшчэ некалькі мясцовых жыхароў.



# Лічба нумара

**53** – столькі беларускіх спартсменаў, па дадзеных Міністэрства спорту і турызму РБ, выканалі асноўныя кваліфікацыйныя нарматывы за год перад пачаткам чарговых летніх Алімпійскіх гульняў у Лондане. На туманным Альбіёне на важнейшых спаборніцтвах чатырохгоддзя нашы атлеты ўжо заваявалі права быць прадстаўленымі ў 6 відах спорту. Подых гэтых гіганцкіх стартаў адчуваецца ў англійскай сталіцы датэрмінова, паколькі асноўныя суперсучасныя спартыўныя аб'екты Алімпіяды-2012 англічане здалі ўжо ў эксплуатацыю.

Увогуле, летнія гульні ў Англіі будуць XXX юбілейнымі ў гісторыі чалавецтва, брытанская сталіца прыме іх у другі раз. Беларусь як самастойная дзяржава возьме ўдзел у летняй Алімпіядзе ў шосты раз. Яшчэ шэраг спаборніцтваў пройдуць у іншых англійскіх гарадах Кардзіф, Манчэстэр, Глазга, Бірмінгем, Ньюкасл, дзе знойдуць сваіх уладальнікаў 302 камплекты ўзнагарод, медалі будуць разыграны ў 37 відах спорту. Як вядома, перад беларускай алімпійскай зборнай пастаўлена складаная задача прывезці дадому 25 медалёў, з якіх 5 – залатыя. Дасягнуць гэтага будзе неверагодна цяжка з-за высокай канкурэнцыі, хоць за "залата" прэміяльныя павялічылі да 150 тысяч долараў.

Узнагароды іншай вартасці "каштуюць" крыху танней: 75 тыс. $ - за сярэбраны медаль і 50 тыс. $ - за бронзавы. Гэта, безумоўна, нядрэнны стымул ліць пот на трэніроўках, упарта выконваць індывідуальныя планы падрыхтоўкі. Але ў сучасным спорце магчымы ўсялякія сюрпрызы. Гэта бліскуча даказалі маладыя беларускія футбалісты на чале з трэнерам Георгіем Кандрацьевым. На іх ніхто не ставіў, не разлічваў, але хлопцы скокнулі вышэй галавы і першымі сярод постсавецкіх краін прабіліся ў фінальны алімпійскі футбольны турнір.

Нягледзячы на эканамічны крызіс, цяпер дзяржава робіць усё магчымае, каб выконвалася прынятая раней праграма падрыхтоўкі да гульняў у Лондане. Забяспечваецца правядзенне замежных збораў і ўдзел у міжнародных спаборніцтвах, выплочваюцца атлетам, кандыдатам важкія алімпійскія імянныя стыпендыі. Дарэчы, у гэту кагорту (без уліку футбольнай зборнай) першапачаткова былі ўключаны 275 спартсменаў у 31-м відзе спорту. Аднак спорт ёсць спорт: жаночая зборная па баскетболе, добра выступаўшая на гульнях у Пекіне, "правалілася" на чэмпіянаце Еўропы і пуцёўку ў Лондан страціла.

Між тым, беларусы на папярэдняй летняй Алімпіядзе ў Кітаі выступалі ў 26 відах спорту. На брытанскіх астравах наша краіна можа найперш разлічваць на поспех і медалі ў такіх відах, як лёгкая атлетыка (22 атлеты выканалі кваліфікацыйныя нарматывы яшчэ ў ліпені 2011 года), веславанне на байдарках і каноэ, а таксама акадэмічнае веславанне і цяжкая атлетыка. На п'едэстале гонару беларускія алімпійцы могуць быць і ў спаборніцтвах па стральбе кулявой, мастацкай гімнастыцы, магчыма, у боксе і ў барацьбе.

Зрэшты, могуць быць і асобныя сюрпрызы і там, дзе раней беларусы медалёў не заваёўвалі. Але нешта планаваць у сучасным спорце – справа няўдзячная, бо нацэленасць на вынік толькі перашкаджае атлету спакойна выступаць. У нас склалася такая практыка: пры няўдачы ( у спорце гэта рэч пастаянная нават для лідараў) могуць пазбавіць фінансавання і дзяржаўнага забеспячэння адразу. Заўважым, што алімпійцаў, акрамя бюджэту галіновага міністэрства, хто толькі не падтрымлівае, кожная вобласць выплочвае стыпендыі сваім патэнцыйным удзельнікам гульняў-2012 у Лондане.

Пакуль цяжка сказаць, якой будзе канчатковая колькасць беларускай алімпійскай спартыўнай дэлегацыі на спаборніцтвах у Англіі, бо барацьба за ліцэнзіі толькі пачалася. Відавочна, што проста турыстаў туды з Беларусі не павязуць. Алімпіяда прыцягвае ўвагу ўсяго чалавецтва, і пасля ўдалых выступленняў Беларусь будзе ведаць як моцную спартыўную дзяржаву. Далей можна разлічваць на прызнанне і міжнародныя кантакты і ў іншых сферах дзейнасці. Час бяжыць хутка, трэба ўжо пачынаць фарсіраваць падрыхтоўку айчыннай зборнай да ўдзелу ў зімовых Алімпійскіх гульнях - 2014, якія пройдуць у расійскім горадзе-курорце Сочы.

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 18.08.11 | | | | пятн. 19.08.11 | | | | сб. 20.08.11 | | | | нядз. 21.08.11 | | | | пн.22.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +12 | +15 | +22 | +16 | +12 | +16 | +23 | +18 | +16 | +16 | +18 | +13 | +11 | +13 | +19 | +15 | +11 | +13 | +19 |
| Ціск, мм | 747 | 747 | 748 | 748 | 748 | 747 | 746 | 744 | 739 | 737 | 739 | 738 | 739 | 741 | 742 | 745 | 746 | 747 | 748 |
| Вільготнасць, % | 94 | 88 | 50 | 77 | 93 | 76 | 57 | 88 | 93 | 98 | 65 | 92 | 100 | 96 | 76 | 85 | 100 | 87 | 60 |
| Вецер м/сек | С-З 4 | С-З 4 | С-З 5 | З 2 | Ю-З 3 | Ю-З 3 | З 4 | Ю 3 | Ю 6 | З 6 | Ю-З 7 | Ю 4 | С-В 2 | С-З 2 | С 6 | С 5 | С 4 | С 5 | С 4 |

## Дзень за днём

**Пасля прызначэння жанчыны Надзеі Ермаковай новым галоўным банкірам у Беларусі вырашылі неўзабаве канчаткова выйсці на адзіны абменны курс беларускага рубля. У краіне ў жніўні істотна, больш чым на 20 %, павысіліся цэны на звадкаваны газ. З новага навучальнага года кошт платнага навучання ў ВНУ краіны павысіцца ў межах 20 %, прахадныя балы для паступлення на вучобу шмат дзе сталі вышэйшыя. Сусветная эканоміка ўздыхнула з палёгкай, калі ЗША павысілі ўзровень дзярждоўгу і пазбеглі дэфолту.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Сусветная супольнасць зноў асудзіла забойства ваеннымі падчас штурму горада Харма танкамі амаль 130 мірных грамадзян, з высны колькасць ахвяр дасягае 4 тысяч.

**Грэцыя.** З аптымізмам успрынялі інвестары рашэнне ЕС і МВФ прадастравіць грэкам пакет дапамогі на суму 109 млрд. еўра і аблегчыць ім ранейшыя даўгавыя абавязацельствы.

**Расія.** Намеснік міністра фінансаў РФ Сяргей Шаталаў упершыню афіцыйна заявіў, што паэтапнае, да 65 гадоў, павышэнне пенсійнага ўзросту для расіян непазбежнае.

**Нарвегія.** Мноства нарвежцаў абурыла, што тэрарыст-забойца Андэрс Брэйвік будзе камфортна сядзець у турме сярод лесу, якая болей нагадвае трохзоркавую гасцініцу.

**Украіна.** Акруговы адміністрацыйны суд падтрымаў гарадскую раду Львова, якая забараніла масава святкаваць угодкі вызвалення горада ад фашысцкіх захопнікаў.

**Балгарыя.** Краіна адклала на нявызначаны тэрмін перамовы аб далучэнні ў еўразону 18 дзяржаў ЕС з-за праблем суседняй Грэцыі, але не адмовілася цалкам ад гэтай ідэі.

**Польшча.** Урадавая камісія канчаткова назвала недапрацоўкі польскага і расійскага бакоў, якія сталі прычынай авіякатастрофы прэзідэнцкага Ту-154 пад Смаленскам.

**Германія.** Нямецкая эканоміка прадэманстравала самыя высокія тэмпы росту ў Еўропе нягледзячы на тое, што тут самыя працяглыя адпачынкі (35 дзён) сярод дзяржаў ЕС.

**Карэя.** У выніку працяглых моцных лівняў паток селю цалкам разбурыў 2 гатэлі горнага курорта, стыхія забрала жыцці 19 турыстаў, яшчэ 3 чалавекі прапалі без вестак.

**Італія.** Кампанія Edison праз міжнародны арбітраж дабілася першай у ЕС ад расійскага "Газпрама" істотных зніжак на газ, яшчэ шэраг краін патрабуюць зніжэння цэн на газ.

**ЗША.** Вучоныя фізікі, якія працуюць на амерыканскім калайдары "Тэватрон", знайшлі новую элементарную часціцу – нейтральны ксі-барыён, пра які былі тэарэтычныя прагнозы.

**Чэхія.** На працягу месяца падчас спецыяльнай акцыі паліцыя пачала выдаваць цвярозым вадзіцелям як узнагароду безалкагольнае піва ад 15 мясцовых піўзаводаў-спонсараў.

**Украіна.** Прэзідэнт В. Януковіч адмяніў ваенныя парады з нагоды Дня незалежнасці, а зэканомленыя сродкі бюджэту накіраваў на меры сацыяльнай абароны насельніцтва.

**Кітай.** Упершыню ў гісторыі беларускага спорту ў Шанхаі Аляксандра Герасіменя стала чэмпіёнкай свету ў плаванні на прэстыжнай дыстанцыі 100 метраў вольным стылем.

**Англія.** Толькі праз 18 гадзін пасля смерці сябры знайшлі дома зорку сусветнай рок-музыкі Эмі Уайнхаус (ёй было 27 гадоў). Яе загубілі наркотыкі і цяга да алкаголю.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Нацбанк РБ дазволіў яшчэ 4-м банкам (апроч Беларусбанка) прадаваць замежную валюту насельніцтву па заявах на лячэнне і навучанне за межамі краіны.

**Астравец.** Здалі 1-ю чаргу вытворчай пляцоўкі для ўзвядзення АЭС. Партнёр "Расатам" у выніку карупцыйнага скандалу звольніў 47 сваіх топ-менеджараў і дырэктараў.

**Салігорск.** З-за пагрозы затаплення рудніка "Беларуськалій" сталі штодзень па 4 разы рабіць адборы проб і хімічны аналіз солі ў водных расолах.

**Мінск.** Да канца года, пацвердзіў віцэ-прэм'ер РБ Сяргей Румас, беларусы стануць паступова пакрываць 30 % затрат за камунальныя паслугі ЖКГ замест цяперашніх 22 %.

**Асіповічы.** У былым дэпо даўгабуд – асноўны вагонабудаўнічы корпус завода па вытворчасці вагонаў – да канца года вырашылі ўсё ж здаць падчас паездкі А. Лукашэнкі.

**Мядзель.** У курортным пасёлку Нарач адкрылася першая трохзоркавая гасцініца на 99 месцаў і ўтульнымі нумарамі ў асноўным вышэйшай катэгорыі люкс.

**Гомель.** Незадавальненне працоўных ААТ "Гомельдрэў" выклікала ўвядзенне аплаты часткі заробкаў натураплатай з-за вельмі складанай вытворчай сітуацыі.

**Ганцавічы.** Падчас Дня беларускага пісьменства ў райцэнтры пройдзе ўпершыню конкурс сярод яго жыхароў "Старэйшая кніга ў вашай бібліятэцы", выстава рэдкіх паштовак.

**Іванава.** Міліцыя распачала крымінальную справу супраць 35-гадовай жыхаркі в. Моталь, якая, каб вярнуць дамоў свайго мужа, спецыяльна падпаліла дом яго роднай сястры.

**Гродна.** Вядомая фірма АВС панесла істотныя страты пасля спынення трансляцый рэкламы крэму, дзе ўгледзелі непавагу да жанчын, залішні сексізм у роліках.

**Мінск.** Толькі ў сталіцы за паўгода каля 100 юнакоў прыцягнулі да крымінальнай адказнасці за ўхіленне ад прызыву ў армію, 4 прызыўнікі прынеслі падробныя даведкі.

**Барысаў.** "Белпошта" выпусціла 100 тысяч маркіраваных канвертаў "100 гадоў беларускаму футболу" з выявамі шэрагу ігракоў любімай каманды "БАТЭ".

**Мінск.** У сістэме сталічнага кінавідэапракату "Бярэсце" стаў чацвёртым 3D-кінатэатрам, за паўгода на кінасеансах у горадзе пабывала больш за паўмільёна гледачоў.

**Маладзечна.** Каб паспець да "Дажынак" здаць спарткомплекс, лядовую арэну і басейн, сюды нагналі будаўнікоў, аб'ект робяць за 10 месяцаў пры норме ўзвядзення 29 месяцаў.

**Рагачоў.** З-за неасцярожнасці пры курэнні загінуў ноччу на пажары 24-гадовы жыхар 9-павярховага жылога дома, прыйшлося эвакуяваць 35 чалавек з суседніх кватэр.

## Дапушчальны ўзровень утрымання алкаголю ў крыві кіроўцаў зніжаны з 0,5 да 0,3 праміле




■ БЕЛТА

**У Беларусі з 12 жніўня дапушчальны ўзровень утрымання алкаголю ў крыві зніжаецца з 0,5 да 0,3 праміле, паведамляе УДАІ МУС Беларусі. У дарожнай міліцыі спадзяюцца, што гэтая мера дапаможа знізіць колькасць ДТЗ, якія адбываюцца па віне нецвярозых вадзіцеляў.**

Зніжэнне колькасці такіх аварый было адзначана ў першым паўгоддзі: здзейснена 292 ДТЗ, што на 20% менш, чым за аналагічны перыяд 2010 года. Знізілася і колькасць загінулых — 73 чалавекі (мінус 17%), а таксама параненых — 341 чалавек (мінус 20,5%).

Нягледзячы на зніжэнне колькасці ДТЗ, у якіх вінаватыя аматары спіртнога, інспектары выяўляюць на дарогах усё больш п'яных кіроўцаў. На 1 ліпеня мінулага года гэтая лічба складала каля 24 тыс., а ўжо ў першым паўгоддзі 2011зарэгістравана больш за 25 тыс. выпадкаў кіравання транспартам у нецвярозым стане. Усяго ж з пачатку гэтага года ДАІ зафіксавала каля 31,8 тыс. такіх фактаў.

Дзяржаўтаінспекцыя нагадвае, што арт.18.16 «Кіраванне транспартным сродкам асобай, якая знаходзіцца ў стане ап'янення, перадача кіравання транспартным сродкам такой асобе або адмова ад праходжання праверкі (агляду)» КоАП Беларусі, у залежнасці ад сітуацыі, прадугледжвае штраф памерам ад 15 да 45 базавых велічынь (адна базавая складае Br35 тыс.). Таксама вадзіцель можа быць пазбаўлены права на кіраванне транспартам на тэрмін да трох гадоў. Акрамя адміністрацыйнай адказнасці, ёсць і крымінальная. Справа можа быць распачата па арт.317-1 КК Беларусі, які прадугледжвае да двух гадоў пазбаўлення волі з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

У дарожнай міліцыі падкрэсліваюць, што п'яны кіроўца не толькі рызыкуе заплаціць буйны штраф або нават атрымаць судзімасць, але і падвяргае небяспецы іншых удзельнікаў дарожнага руху. Яны зусім не павінны пакутаваць з-за яго схільнасці да спіртнога.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У горадзе пачалі распрацоўку дакументацыі на ўзвядзенне яшчэ двух новых жылых мікрараёнаў Сакольнікі і Лучоса, дзе плануюць будаваць 18-20-павярховыя дамы.

**Верхнядзвінск.** На працягу 4 дзён паблізу Кургана Дружбы праходзіў 20-ы міжнародны маладзёжны форум "Бе-La-Русь", прысвечаны 50-годдзю першага палёту ў космас.

**Докшыцы.** З-за адсутнасці фінансаў спынілі ўзвядзенне сучаснай МТФ "Вяцера" з даільнымі заламі. Не хапае цэменту, рабочых і грошай і для будаўніцтва 20 ферм вобласці.

**Наваполацк.** Упершыню зборная Беларусі дзякуючы выхаванцам мясцовай ДЮСШ атрымала камандную перамогу на чэмпіянаце свету па водных лыжах у расійскім Дубне.

**Бароўка.** У ваенным гарадку на Лепельшчыне адкрылі трэці па ліку помнік загінуўшым землякам, воінам-інтэрнацыяналістам. Дамоў не вярнуліся з Афганістана 8 чалавек.

**Расоны.** У аграгарадку Клясціцы рыхтуюць да здачы новую сучасную малочнатаварную ферму на 385 галоў жывёл з безпрывязным утрыманнем.

**Паставы.** У хірургічным аддзяленні райбальніцы падрыхтаваліся да правядзення і эндапратэзавання тазасцегнавых суставаў, раней тут асвоілі лапараскапічную хірургію.

**Лепель.** На ваенны палігон у раёне падчас нечаканай сумеснай штабной трэніроўкі Узброеных Сіл РБ маршкідком прыбыла бранятэхніка 103-й асобнай мабільнай брыгады.

**Віцебск.** Перад сваім залічэннем на вучобу ў БДУ выпускнік мясцовай гімназіі № 7 Косця Мартынаў паспеў заняць 1-е месца на сусветнай алімпіядзе сярод 84 краін па фізіцы.

**Орша.** Геолагі пачнуць разведку магчымых запасаў нафты, якая можа быць, па ацэнцы спецыялістаў, і ў Аршанскай упадзіне, нафту цяпер шукаюць у РБ яшчэ ў 60 месцах.

**Полацк.** Падчас сумеснай п'янкі і сваркі 22-гадовы хлопец-кватарант збіў да смерці 47-гадовую палачанку, якая здавала яму кватэру. Труп міліцыя знайшла ў ванным пакоі.

**Глыбокае.** Дэпартамент выканання пакаранняў МУС Беларусі не стаў каментаваць паведамленні аб некалькіх спробах летам суіцыду ў мясцовай калоніі № 13.

**Гарадок.** Пасля капітальнага рамонту ў раённай бальніцы адкрылася сучаснае аддзяленне рэабілітацыі з новым фізабсталяваннем, спецваннамі для падводнага масажу.

**Наваполацк.** На працягу месяца горад аказваў дапамогу цыркавому дрэсіроўшчыку з Францыі, у якога львіца падчас гастроляў парадзіла адразу 4-х малых.

**Віцебск.** У папраўчай калоніі №1 для падлеткаў прайшло спартыўнае алімпійскае свята з удзелам праслаўленага атлета, сярэбранага прызёра Алімпіяды-1980 года Ігара Каныгіна.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Бацьку беларускага тэатра – 150

## Да юбілею з дня нараджэння І.Ц.Буйніцкага

**Кліменцій Кожан,**
*м. Германавічы.*

**22 жніўня 2011 года споўніцца 150 гадоў з дня нараджэння Ігната Буйніцкага, беларускага акцёра, рэжысёра, пачынальніка беларускага нацыянальнага прафесійнага тэатра.**

Нарадзіўся Ігнат Цярэнцьевіч Буйніцкі 10 (22) жніўня 1861 года ў фальварку Палівачы Дзісенскага павета Віленскай губерні (цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці) у шляхецкай сям'і. Скончыў Рыжскае землямернае вучылішча. Працаваў землямерам. Атрымаў таксама акцёрскую адукацыю, наведваючы прыватную драматычную студыю ў Вільні. Раз'язджаючы па вёсках, Ігнат Буйніцкі вывучаў жыццё сялян, блізка прымаў да сэрца іх беды. У Празароках ён арганізаваў Беларускае крэдытнае таварыства, у якім кожны селянін пад невялікі працэнт мог атрымаць пазыку. Па ўспамінах сучаснікаў, Ігнат Буйніцкі ніколі не расставаўся са сваім вялікім сшыткам, у які запісваў народныя песні, вялы, танцы. Ён збіраў узоры народнага адзення, арнаменту, размалёўкі.



Сваю тэатральную дзейнасць Ігнат пачаў з правядзення беларускіх вечарынак у сваім фальварку, у якіх прымалі ўдзел палівачоўскія хлопцы і дзяўчаты. Прырода шчодра надзяліла Ігната Буйніцкага талентам. Ён добра спяваў, танцаваў, дэкламаваў, быў за рэжысёра.

“Сяляне гаварылі: “Пан каморнік са сваімі артыстамі нашы беларускія песні спявае і танцы простыя скача: “Лявоніху”, “Юрачку”, “Вераб'я”, “Мяцеліцу”. - Як гэта, сам пан, ды такое вырабляе? Навошта? – недаверліва перапытвалі іншыя. – Ды які пан? – сцвярджалі дасведчаныя, - Калі балотную зямліцу, што ад бацькі дастаў, сваімі ж рукамі на пух вырабіў. І за нас ён стаіць, не за паноў. Таму гаспадарскія службі і з каморніка звольнілі.

А шляхта (чым драбней, тым зласлівей) шапталася: “Ён, васпане, мякка кажучы, дзівак. І жонка, відаць, ад яго ў свой Магілёў невыпадкова з'ехала. Сорак шэсць гадкоў чалавек мае, а ўсё за сапраўдную справу не ўхопіцца. Знайшоў чым свет здзівіць – мужыцкімі выбрыкамі і іх нуднай песняй!”

Сёння немагчыма ўстанавіць, як адказваў на такія абвінавачванні сваякоў і суседзяў-шляхцічаў Ігнат Цярэнцьевіч. Вядома толькі, што першая жонка Буйніцкага была за яго, але яна рана памерла, і што сам ён адышоў ад радні, абвясціўшы сябе беларусам, кім і быў на самай справе і душою, і думкамі.” (П.Сіняўскі. “Святая памяць для ўсіх”. “Віцебскі рабочы”, 22 жніўня 1986г., №160).

У 1907 годзе Ігнат Буйніцкі разам з дочкамі Вандай і Аленай, а таксама са сваімі блізкімі сябрамі стварыў у фальварку Палівачы аматарскі калектыў (трупу). Канцэрты, наладжаныя трупай, выклікалі шырокі рэзананс. Са сцэны гучала родная беларуская мова, выконваліся народныя песні і танцы. Ігнат Буйніцкі і яго артысты імкнуліся данесці да сялян прыгажосць беларускіх песень і танцаў.

Артыст з трупы Ігната З.Абрамовіч у сваіх успамінах пісаў: “Танцоры ўсё павялічваюць тэмп, ногі ўсё хутчэй і хутчэй адбіваюць такт, на змену адной фігуры прыходзіць другая, яшчэ больш мудрагелістая. Гучыць прыпеў, міма кулісы імчацца абедзве пары – мужчыны ў вышытых кашулях і дзяўчаты ў шырокіх квяцістых спадніцах. Мелодыя нарастае, а Буйніцкі, узяўшы рукі ўбокі і злёгку сагнуўшыся, вядзе нас за сабой без усялякай рысоўкі, “запальвае” нас танцам, у якім няма нават намёку на якую-небудзь стылізацыю… У гэты момант гледачы ўжо не вытрымліваюць напалу…, многія падымаюцца з месцаў, у першых радах публіка прытупвае і падпявае… Пад заслону на сцэне такі ашаламляльны тэмп “Мяцеліцы”, што адразу не чуваць нават грому воплескаў і настойлівых крыкаў “біс”.

> **Янка Купала:**
>
> Важна рэй Ігнат Буйніцкі
> Ў танцах нашых водзіць,
> Аж здаецца — усё чыста
> Хадыром з ім ходзіць.

Ігнат Буйніцкі чэрпаў сілы ад свайго народа. Уклаўшы рэквізіт у вазы, ехалі і другое мястэчка і там зноў спявалі, танцавалі, чыталі вершы. Там, дзе пабываў са сваімі артыстамі Ігнат, узнікалі мясцовыя гурткі самадзейнасці: у Дзісне, Лужках, Язна, Празароках, Глыбокім…

Чуткі аб дваровым тэатры Ігната Буйніцкага разнесліся далёка. У лютым 1910 года вясковых артыстаў запрасілі прыняць удзел у першай публічнай беларускай вечарынцы, якая адбылася ў Вільні. На ёй выступаў хор пад кіраўніцтвам Л.Рагоўскага, быў паказаны спектакль, падрыхтаваны А.Бурбісам. У канцы сваё майстэрства прадэманстравала танцавальная трупа Ігната Цярэнцьевіча. Поспех быў незвычайны. Гэта канчаткова пераканала Ігната ў неабходнасці стварэння прафесійнага тэатра. Летам 1910 года была сфарміравана пастаянная трупа. Былі распачаты працяглыя гастролі па Беларусі. Выступілі ў Дзісне, Свянцянах, Паставах, Полацку, Капылі, Нясвіжы, Клецку, Слуцку, Ляхавічах, Мінску і іншых гарадах і мястэчках. У час гастроляў Ігнат Буйніцкі шмат дапамагаў мясцовым аматарам тэатра, чым садзейнічаў уздыму тэатральнага руху на Беларусі. Калектыў набыў за час сваіх выступленняў асноўныя рысы прафесійнага тэатра. Творчае аблічча тэатра Ігната Буйніцкага выявілася і ў рэпертуары. Яго склалі п'есы “Па рэвізіі” і “Пашыліся ў дурні” М. Крапіўніцкага, “Модны шляхцюк” К.Каганца, “У зімовы вечар” паводле Э.Ажэшкі, “Сватанне” А.Чэхава…

Буйніцкі ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва трупай, фінансаваў яе на ўласныя сродкі. Быў ён і першым танцорам, выступаў у хоры, удзельнічаў у спектаклях. Як пісалі газеты, ігра Ігната Буйніцкага вызначалася жыццёвай і бытавой дакладнасцю, глыбокай самабытнасцю, тонкім гумарам. Першая беларуская трупа выступала ў Вільні, Варшаве, Мінску, Пецярбургу. Усюды яе выступленні праходзілі з вялікім поспехам. Дзейнасць Ігната Буйніцкага падтрымлівалі дзеячы беларускай культуры: Янка Купала, Ядвігін Ш., Цішка Гартны, Змітрок Бядуля, Алаіза Пашкевіч (Цётка) і іншыя.

Трупа Ігната Буйніцкага праіснавала да 1913 года, з-за палітычнага ўціску і матэрыяльных цяжкасцяў яна была распушчана. Ігнат спадзяваўся арганізаваць новы беларускі тэатр, але перашкодзіла Першая сусветная вайна. У 1917 годзе ён быў адным з арганізатараў стварэння Першага таварыства беларускай драмы і камедыі, на аснове якога ўзнік Беларускі дзяржаўны тэатр імя Янкі Купалы. Ігнат Буйніцкі быў выбраны старшынёй гэтага таварыства. Пазней ён трапіў на фронт, дзе 22 верасня 1917 года раптоўна памёр ад тыфу, у 56 гадоў, у шпіталі каля мястэчка Гарадок, паміж Маладзечнам і Валожынам. Пахаваны на салдацкіх могілках каля вёскі Палачаны на Маладзечыншчыне. Пазней родныя перавезлі яго прах у Палівачы, а ў 1975 годзе астанкі Ігната Буйніцкага перазахаваны на цэнтральнай плошчы ў Празароках. Над магілай устаноўлены помнік (скульптар І.Міско, архітэктар М.Бурдзін).

У 80-х гадах мінулага стагоддзя, калі я даволі часта ездзіў у Вільню, Зоська Верас (Людвіка Антонаўна Войцік) аднойчы спыталася, што я ведаю пра Ігната Буйніцкага. Пахваліцца сваімі ведамі пра “бацьку беларускага тэатра” я тады не мог. Зоська Верас параіла прагледзець падшыўку “Нашай Нівы” хаця б за 1910 год, прачытаць артыкулы, звязаныя з дзейнасцю тэатра Ігната Буйніцкага. Паслухаў гэтай парады, зрабіў некаторыя выпіскі з прачытаных матэрыялаў. Прапаную чытачам “Вольнага Глыбокага” водгукі прэсы даўніх гадоў аб выступленнях артыстаў Ігната Буйніцкага.

26 жніўня 1910 года ў газеце “Наша Ніва” (№35) быў надрукаваны артыкул “Беларускі вечар у Дзісне” за подпісам “Адзін з публікі”. У артыкуле невядомы аўтар пісаў: “Жыве беларускі народ, і ніякія сілы ворагаў не затрымаюць яго! Жыве дух у народзе! Сэрца ўдарае моцна і грудзі падымаюцца высока на спамін усяго таго, што прыйшлося бачыць і перажыць у час беларускага вечара ў Дзісне. Святкаваў горад першы раз ад незапамятных часоў вялікае нацыянальнае свята. Святкавалі і людзі. Дзісна не помніць такога збору народу. Інтэлігенцыя і просты народ – усе шчыра віталі беларусаў; магучая ідэя нацыянальнага адраджэння гарачымі праменнямі сваімі ўсіх абагрэла, усіх з'яднала, разварушыла застыўшыя сэрцы, заіскрыла выцвілыя ад спёкі вочы, і першае роднае слова са сцэны вітана было не адной слязой з перапоўненых грудзей і безумоўчным гукам галасоў. Гэта народ спяваў хвалебную песню змагарам за родную матку Беларусь. Калі пачалася беларускія танцы на сцэне, уся зала стагнала глуха ад пахвальных крыкаў, а на галовы танцораў сыпаліся кветкі і ўсцілалі ім дарогу… Да 10 гадзін раніцы ішла бойкая гулянка! Гарачы дзякуй шчыраму беларусу Ігнату Буйніцкаму, які, не шкадуючы сіл сваіх і працы, устроіў гэтую вечарыну і быў тутака першым танцорам! Дзісненскія беларусы доўга будуць помніць гэта”.

У многіх гарадах і вёсках Беларусі выступаў тэатр Буйніцкага. Газета “Наша Ніва” рэгулярна друкавала артыкулы і карэспандэнцыі аб выступленнях тэатра Буйніцкага. У №40 за 30 верасня 1910 года змешчаны вялікі артыкул “Беларускі вечар у Полацку” (субота-нядзеля, 25-26 верасня 1910 года), у якім дадзена высокая ацэнка дзейнасці тэатра Ігната Буйніцкага.

Двойчы выступаў тэатр у Пецярбургу: на вечарах беларускай моладзі (1911г) і на этнаграфічным вечары, падрыхтаваным рэдакцыяй часопіса “Вестник знания” (1912г.). Вось які водгук на выступленне тэатра Ігната Буйніцкага ў Пецярбургу надрукавала “Наша Ніва” 4 студзеня 1913 года (№1): “27 снежня 1912 года адбыўся вечар усіх народаў, што жывуць у Расіі… Як выйшаў Буйніцкі са сваімі танцорамі і сялянамі-беларусамі – дударом, цымбалістам і скрыпачом, - па-простаму паварочваючыся, дык гэта адразу прынялі ўсе з захапленнем: усе, хто там быў, ударылі ў ладонькі. А калі Буйніцкі з дачкой пайшоў “Лявоніху”, а за ім чарада хлопцаў з дзяўчатамі, як пачалі прытупваць, падскокваць, дык уся публіка – тысяч восем народу – як ударыла ў ладонькі, як закрычала “брава, брава, беларусы…” Хлопцы яшчэ не скончылі “Лявоніху”, а ім усё крычаць, што надта добра, надта міла, і проста, і пекна… Найбольш публіка біла “брава” беларусам за іх народную натуральную прастату. Буйніцкаму паднеслі лаўровы вянок з чырвонай стужкай і каштоўны падарунак у скрыначцы. Ніколі і нідзе не бачыў, каб гэтак што спадабалася пецярбуржцам, як беларускія танцы: “Мельнік”, “Лявоніха”, “Юрка”, “Верабей”… Потым публіка распытвалася ў Буйніцкага – скуль і якія гэта беларусы з'явіліся? Бо раней іх не чуваць было!..”

Памяць пра Ігната Буйніцкага жыве і сёння. У Празароцкай сярэдняй школе ў 1982 годзе створаны музей Ігната Буйніцкага. У г. Глыбокае яго імем названа вуліца.

“Наша Ніва” ў 1910 годзе пісала: “Калі абудзіцца свядомасць ва ўсяго беларускага народа, памяць аб Ігнацэ Буйніцкім будзе святой для ўсіх”.



**Нацбанк выпусціў манеты “І. Буйніцкі. 150 гадоў” Іх намінал 10 і 1 рубель.**

Першая манета адчаканеная на срэбры, другая – медна-нікелевая. На адной з бакавін манет размешчаная выява знакамітага беларускага акцёра і тэатральнага дзеяча Ігната Буйніцкага. Набыць манеты можна ў аддзяленнях Нацбанка і некаторых камерцыйных банкаў.

## Просім дапамогі!

З суботы на нядзелю, з 13 на 14 жніўня, на Цэнтральнай плошчы нашага гор. Глыбокае адбылося здарэнне. Незнаёмы злачынца пашкодзіў фарбай сцяну Дома Саветаў. Вялікая просьба да тых, хто ў 2 гадзіны ночы знаходзіўся на плошчы і быў сведкам здарэння патэлефанаваць на нумар **8 (029) 597-21-74** (мтс). Узнагароду і ананімнасць гарантуем.

*Глыбоцкі РАУС.*




**«Народная праграма» - ініцыятыва па выпрацоўцы новага, пазітыўнага бачання будучыні Беларусі праз экспертнае і шырокае грамадскае абмеркаванне надзённых пытанняў развіцця краіны.**

**Ідэя выпрацоўкі новага, пазітыўнага бачання будучыні Беларусі была прапанаваная групе незалежных экспертаў. У Беларусі бракуе прафесійнага экспертнага абмеркавання праблем, таксама як і шырокіх грамадскіх дыскусій дзеля стварэння як мага больш рэалістычнай і блізкай да людзей канцэпцыі будучыні. Таму экспертныя думкі спалучаюцца з народным абмеркаваннем.**

**Пасля дыскусіі экспертная група будзе падагульняць яе вынікі ў выглядзе праграмных тэзаў будучых пераўтварэнняў, якія будуць даступныя для выкарыстання любым палітычным і грамадскім сілам.**

**Тэма для абмеркавання штотыдзень апавяшчаецца праз афіцыйны сайт «Народнай праграмы» - Prahrama.by. Абмеркаванне вядзецца як на ім, так і на круглых сталах і грамадскіх слуханнях.**

**Прапанаваны ніжэй матэрыял ідзе ў кантэксце грамадскага абмеркавання надзённых пытанняў развіцця краіны.**

# Малыя рэкі – вялікія праблемы

**Уладзімір Скрабатун,**
*тэкст і здымкі.*

**Якой мы бачым будучыню Беларусі? Якую краіну пакінем нашым дзецям і ўнукам?**
**Каб зазірнуць у будучыню, трэба ведаць і сённяшнюю рэчаіснаць. Будучыня краіны робіцца сёння. Ці здавальняе нас стан навакольнага асяроддзя, у якім мы жывём? Ці ўсё добра з нашымі лясамі і пушчамі, азёрамі і рэкамі?**
**Наш госць – глыбачанін Алег Клетавіч Лысёнак, эколаг, старшыня Праўлення МЭГА “Прырода і мы”.**

– З мінулага года я заняўся тэмай **“Малыя рэкі – вялікія праблемы”,**– кажа эколаг. Звяртаўся ў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь, у газету “СБ”… І – нічога! Мае звароты перасылаюць міністру. Ніхто не хоча ўздымаць праблему і давесці яе да ведама навукоўцаў. У мінулым годзе я зачытаў даклад на міжнароднай канферэнцыі, дзе было 35 краін-удзельніц. Гэта быў чацвёрты форум аб вадзе. Мой даклад – аб праблемах малых рэк. Даклад прайшоў, але ніякай рэзалюцыі на тое не было прынята. Нібыта ніякіх праблемаў у нас не існуе. Толькі Румынія выказала заклапочанасць станам Дуная. Пасля дакладу шмат хто падыходзіў да мяне, пагаварылі… і ўсё. Я потым паспрабаваў праз газету “СБ” давесці да ведама навукоўцаў вялікія праблемы малых рэк…

А якая праблема ўзнікла? Справа ў тым, што ў апошнія гады пачалі інтэнсіўна зарастаць малыя рэкі: пры ўваходзе ў возера – у адзін бок, на выхадзе з яго –у іншы бок. Цалкам. Там, дзе плынь хуткая, зарастання ракі не назіраецца.

Я маю званне Ганаровы эколаг, хоць і не эколаг па адукацыі. У экалогію прыйшоў з авіяцыі. Аднак я бачу і адчуваю праблему. У мяне ёсць свае высновы. Разгледзім адну з іх.

Недалёка ад вадаёмаў вельмі часта размяшчаюцца калгасныя фермы. Побач з імі – ямы, дзе захоўваецца гной. Дакладна вядома і навукоўцамі даследавана, якія рэакцыі і працэсы адбываюцца ў гэтых ямах на працягу 8 гадоў. Што далей адбываецца – невядома! Ніхто не ведае! Якія там шкодныя рэчывы ўтвараюцца? А гэтым гнойным ямам па 50-60 гадоў! І пра іх ўсе даўно забыліся… Аднак гадамі ідуць дажджы, растае снег… Вада з ямаў трапляе ў рэкі і азёры. Мая выснова такая: гэтыя сцёкі ўтвараюць нейкі дадатны эфект для водарасцяў, які спрыяе суцэльнаму зарастанню рэк у зоне іх павольнай плыні. Дзе хуткая плынь, зарастання водарасцямі не назіраецца. Падобнае, напрыклад, назіраецца і ў Балтыйскім моры, у тых месцах, дзе знаходзяцца падводныя пахаванні з часоў апошняй вайны (ёмістасці з хімічнай зброяй). Тут вырастаюць водарасці аж да паверхні вады. Калі карабель у тое месца трапляе, выйсці адтуль ён ужо не можа. Гэтыя водарасці выдзяляюць рэчывы, якія ў чатыры разы пераўзыходзяць па шкоднасці тыя, якія выдзяляюць пахаванні на дне мора. Даказаны навукоўцамі факт! Але ніхто не ведае, чаму такія водарасці раптам з’явіліся.

Са згаданых вышэй фактаў я раблю высновы, што і ў нашым краі ўтварылася падобная праблема на аснове доўгатэрміновых гнойных пахаванняў уздоўж берагоў нашых азёр і рэк.

У мяне быў даклад у МінПрыроды па згаданым праекце Еўрасаюза (у якім вядучы партнёр адмовіўся ўдзельнічаць) – “Малыя рэкі – вялікія праблемы”. У МінПрыроды ўзялі мой праект – выкраслілі ды замазалі згаданы загаловак, а Латвія дадала новую назву “Аднаўленне паўнаводнасці рэк”. Ну й не ведаю я, як латышы збіраюцца аднаўляць паўнаводнасць рэк!

Але ўсё-такі трэба было даваць нейкі адказ на мой выступ. Начальнік водных рэсурсаў, выслухаўшы мой даклад, доўга вагаўся… Потым выказаўся, што праблема з малымі рэкамі, якая прагучала ў маім дакладзе, – надуманая і перабольшаная.

Ніхто не зацікаўлены ў агалошванні праблемаў з малымі рэкамі.

На берагах азёраў, вялікіх і малых рэк, размешчаныя помнікі прыроды – старадаўнія паркі, якія закладзены два-тры стагоддзі таму ўласнікамі шляхецкіх маёнткаў. У нас да такіх помнікаў прыроды адносіцца Залескі парк, адзін з лепшых паркаў Беларусі эпохі Рамантызму.

На гэтай канферэнцыі, дзе я выступіў з дакладам, мною было закранута пытанне аб стане Залескага парка. І нагода ёсць: у 2012 годзе на Глыбоччыне адбудзецца святкаванне Дня беларускай пісьменнасці.

Справа ў тым, што мы распрацавалі адмысловы праект, у якім улічаныя ўсе пытанні і экалогія і гісторыя Залескага парка ўзаемазвязаныя. Планавалася стварэнне гісторыка-экалагічных сцежак з парка да легендарнай Мамчынай Горкі, рэстаўрацыя былой графскай стайні ў парку, пабудова вальераў для жывёлаў (аленяў, казуль, ласёў…).

Праект можаш весці сам (грамадская арганізацыя) і распараджацца фінансамі, але на праекце павінен быць подпіс мэра. Пайшоў да мэра. Мэр кажа: “Вы не зможаце гэта выканаць!” І, спаслаўшыся на занятасць, адправіў да намесніка. Пайшоў. Сядзяць два намеснікі. Выслухалі. Кажуць тое самае: “Не! Мы не панясем ваш праект на подпіс. Подпісу не будзе!” Вось так – непатрэбныя сталіся 150 000 еўра на Залескі парк. Праваронілі!

Я ўжо падумаў, што перашкода ідзе з боку тых дачнікаў, якія аселі на Белым возеры побач з Залескім паркам. Хацеў на ўсё плюнуць…

Гэты праект разглядаўся ў лютым мінулага года. Аднак Еўропа ўжо сродкі выдаткавала. Быў паўторны разгляд у ліпені. Сродкі ж трэба рэалізоўваць! Патэлефанаваў у Паставы… Мэр: “Прыязджай!” Ён адразу мяне прыняў. На ўсё пагаджаўся: “Магу быць вядучым праекту я, можаш ты! Бяры на сябе тыя 150 000 еўра і распараджайся імі!” Толькі плячамі пацiскваў: “Як гэта так! Даюць грошы! Чаму б не ўзяць? Трэба і гэтым займацца: аднаўляць паркі, вывучаць стан нашых рэк… Гэта – наша Радзіма! І грошы даюць…”

Подпіс ёсць! Разам з навучэнцамі Пастаўскага каледжа мы правялі водную экспедыцыю па рацэ Мядзелцы… Праўда, не паспелі праект цалкам рэалізаваць. Але не па віне мэра. Мэр вельмі хацеў нам дапамагчы… Рэальна тэрміны былі ўжо ўпушчаныя.


**Алег Клетавіч Лысёнак,**
*эколаг.*

Гэта было ў мінулым годзе… А сёлета? Гэта ж трэба – так і хочацца вылаяцца мацюкамі – 1 200 000 еўра – кату пад хвост! – абураецца эколаг. – Еўропа хацела выдаткаваць нам… Два месяцы мучыліся з напісаннем гэтага праекту. Напісалі. Аддалі праект на зацвярджэнне. А партнёр, які вядзе праект “Азёрны край” на Беларусі – г. Браслаў – адмовіўся ад фінансавання. У апошні момант адмовіўся. Такая ўжо абыякавасць пануе паўсюдна! Цяпер на Польшчу перакідваемся… Здаецца, ёсць згода – з Мінска тэлефанавалі.

*– Я так зразумеў, што Еўрасаюз мог і хацеў даць 1 200 000 еўра на даследаванне і вырашэнне розных экалагічных праблемаў нашага краю. А гэта – Браслаўшчына, Глыбоччына, Пастаўшчына і Мёршчына. А мы, у асобе вядучага партнёра (Браслава), адмовіліся гэтую фінансавую дапамогу атрымаць?*

– Так! – кажа Алег Клетавіч.

*– А хто адмовіўся?*

– Браслаўскі райвыканкам. Браслаў і вядзе гэты праект: Латвія, Літва і Беларусь. Супольны праект “Азёрны край”.

*– Дык не зразумела, чаму Браслаў адмовіўся ад 1 200 000 еўра? Ці ўсё ж была боязь, што няма ў нас спецыялістаў па гэтай тэме і праект не будзе рэалізаваны?*

– Увесь праект вісеў на мне. Праект вельмі складаны. Ён прадугледжваў, напрыклад, стварэнне ў школах, у кожным сельсавеце адмысловых пастоў, раз на год сумесна ачысціць пэўны праблемны ўчастак… Ну як у цэнтры Узрэчча, напрыклад, у мінулым годзе было зроблена. Яшчэ праект прадугледжваў рэгулярнае праводзенне пры райвыканкамах пасяджэнняў па праблемах экалогіі, кантроль за станам экалогіі з боку райвыканкамаў, дапамога у экалагічных даследаваннях…

Заканчэнне на стар. 11

А.А.Панфілка, *інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС, капітан унутранай службы.*

# Дзіцячае свавольства з агнём – прычына пажару

Пакінутыя без нагляду дзеці часцяком не знаходзяць нічога цікавейшага за гульні з запалкамі, запальніцамі, разводзяць вогнішчы паблізу будынкаў. Ад такіх «гульняў» гараць не толькі будаўнічыя канструкцыі, але часцяком пакутуюць і самі дзеці.

У 2011 годзе на тэрыторыі Віцебскай вобласці ў агні загінула 3 дзяцей. Гібель магла адбыцца ў Глыбоцкім раёне ў в. Старыя Шарабаі Карабоўскага с/с. На світанку грамадзянка Г. пайшла на работу, яна працуедзённым вартаўніком на ферме ААТ «Канстанцінаў Двор», пакінуўшы дваіх няпоўнагадовых дзяцей дома адных і пры гэтым зачыніла дзверы на замок. Калі дзеці прачнуліся, то знайшлі сабе цацку – запалкі, якія знаходзіліся ў даступным месцы. Дзеці – аднаму дзіцяці 8 гадоў, другому 5 гадоў – знайшлі ў каморцы старую паперу і падпалілі яе, а самі спалохаліся і ўцяклі ў пакой. Калі дым пачаў пранікаць у іх пакой, то старэйшае дзіця адчыніла акно і выскачыла на вуліцу, малодшага выратаваў падаспеўшы гр-н М., работнік ААТ «Канстанцінаў Двор». Не апыніся побач сусед – і трагедыі не пазбегнуць

Таму неабходна яшчэ раз нагадаць усім бацькам вядомыя ісціны:

- не пакідайце няпоўнагадовых дзяцей без нагляду, не пакідайце іх адных у зачыненых памяшканнях;
- захоўвайце запалкі, запальніцы і т.п. у недаступных для дзяцей месцах;
- сачыце, каб дзеці не разводзілі вогнішчы паблізу будынкаў, побач са сціртамі сена і саломы;
- не даручайце маленькім дзецям растопліваць печы, распальваць газніцы, уключаць электраабагравальныя прыборы;

**Бацькі, памятаеце: нават дробная неасцярожнасць прыводзіць да пажару.**

# Шаркоўшчынскі цырк уразіў глыбачанаў

Кастусь Шыталь

**14 жніўня на дзіцячай пляцоўцы, што на беразе возера Кагальнае ў Глыбокім, выступаў шаркоўшчынскі цыркавы калектыў “Мара”.**

Прадстаўленне было захапляльным: дзеці і падлеткі – удзельнікі цыркавога калектыву - выраблялі рэчы, якія здаваліся неверагоднымі. Выступоўцы залазілі на драбіну без падпоркі, рабілі розныя рухі на канструкцыях і з дошак і катушак, выгіналіся на стале. Пераказаць словамі немагчыма, гэта трэба было бачыць.

Калі меркаваць па колькасці апладысментаў у адрас выступоўцаў, відовішча ўразіла глыбачанаў. За прадстаўленнем назіралі каля трохсот чалавек, пераважна бацькі з дзецьмі рознага ўзросту.

Цырк “Мара” атрымліваў узнагароды і рэспубліканскага, і міжнароднага ўзроўню. Унікальным з’яўляецца тое, што такі калектыў склаўся не ў Мінску ці Віцебску, а ў невялікай па насельніцтве Шаркоўшчыне.

Касцяк цырку складае сям’я Дарашчонкаў. Бацькі – Віталь і Іна – кіруюць цыркам, а чацвёра іх сыноў з маленства ўдзельнічаюць у прадстаўленнях.

“Мне падабаецца прыносіць людзям задавальненне, падабаецца бачыць іх рэакцыю, іх усмешку. Я хачу прыносіць людзям шчасце”, – распавёў Дзіма Дарашчонак, які пачаў спрабаваць сябе ў цыркавых выступленнях з трохгадовага ўзросту, а ў Глыбокім прадстаўляў складаныя эквілібры на драбіне і дошцы з катушкамі.

Фотарэпартаж з прадстаўлення можна пабачыць на сайце westki.info





Глыбокае адсвяткавала Міжнародны дзень моладзі. У рэчышчы мерапрыемстваў, якія з гэтай нагоды праводзіліся ў горадзе, ва ўрачыстай абстаноўцы быў адкрыты дзіцячы гарадок на беразе возера Какальнага. На здымку – урачысты момант адкрыцця – чырвоную стужку перараазе кіраўнік Глыбоцкага раёна А.В. Морхат. *Фота Я. Самсонава.*

# У выніку моцнага ліўню падтоплены Валожын, Нясвіж і Мінск

Мінск, 15 жніўня.

**З-за моцнага ліўню 14 жніўня былі падтоплены Валожын, Нясвіж і Мінск.**

Як паведамілі БелаПАН у дзяжурнай часці МНС Беларусі, найбольш сур'ёзнае падтапленне адбылося ў Валожыне (Мінская вобласць). Лівень тут доўжыўся прыблізна гадзіну, з 15.00 да 16.00, і разбурыў дамбу на Валожынскім вадасховішчы. Вада трапіла ў раку Валожынку, у выніку чаго ўзровень вады рэзка падняўся. Падтоплена 105 падвор'яў і 82 прыватныя дамы, адкуль эвакуяваны 63 чалавекі. Пацярпелых няма. Акрамя таго, уздым узроўню вады выклікаў падтапленне трох мастоў, адзін з якіх абваліўся. Паводле звестак МНС, за суткі ў Валожыне выпала 45 міліметраў ападкаў пры месячнай норме 81 міліметр.

У Нясвіжы (Мінская вобласць) падтоплена 12 падвор'яў і восем прыватных дамоў. У Мінску адзначана падтапленне дзевяці ўчасткаў дарог — на працягу паўтара гадзін тут не працаваў грамадскі транспарт.

*Марына Носава, БелаПАН.*



# Сайт УУС Віцебскага аблвыканкама ўзламаны туніскімі хакерамі

**Афіцыйны сайт Упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама быў узламаны групай туніскіх хакераў Tn-V!Rus.**

11 жніўня вэб-сайт Віцебскага УУС выдаваў паведамленне «Сайт часова недаступны», але на наступны дзень яго працаздольнасць была адноўлена. Сёння на блогу «Нататкі сеткавага валацугі», які праводзіць маніторынг сеткавай бяспекі беларускага сегмента Інтэрнэт, з'явілася паведамленне пра ўзлом чатырох беларускіх сайтаў ісламскімі групоўкамі, сярод іх і uvd.vitebsk.by.

У цяперашні момант сайт УУС Віцебскага аблвыканкама цалкам даступны, але яго апошняе абнаўленне датуецца 11 жніўня. Калі ж зайсці па паказаным у нататцы на блогу адрасе uvd.vitebsk.by/index2.php, то бачныя сляды ўзлому — надпіс «Hacked By Tn-V!Rus». Таксама хакерскі подпіс закэшаваны пошукавай сістэмай Google.

Мяркуючы па інфармацыі, якую можна знайсці ў Інтэрнэт, Tn-V!Rus — група хакераў з Туніса. Сваю дзейнасць яны завуць «трэцяй інтыфадай», а галоўнай мэтай завуць «барацьбу з ізраільскім тэрарызмам». Праўда, якое стаўленне да блізкаўсходняга канфлікту маюць беларускія сайты, абсалютна незразумела.

Таксама да нядаўняга часу быў недаступны сайт віцебскай ДАІ, ён таксама выдаваў паведамленне «Сайт часова недаступны». Ці звязана гэта з узломам, пакуль невядома.



Лагатып хакерскай групы Tn-V!Rus у Facebook.

